# ЗВОН

Беларуская штодзенная палітычна-літэратурная часопісь.

Рукапісы павінны быць перапісаны чытэльна. Аплата прынятых рукапісау залежыць ад рэдакцыі. Рукапісы назад не выдаюцца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: м. Менск, Юбілейны дом.

Цана нумару 1 марка.

ГОД ВЫДАНЬНЯ I.

РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

Цана абвестак:

за 1 радок за тэкстам . 2 м.
шукаючым працы, за абвестку . . . . . 2 м.

№ 9. Менск, Пятніца, 12 верасьня 1919 г. № 9

Дзеле вялікага недахвату паперы, газэта часова выходзіць тры разы на тыдзень: у **панядзелак, сераду і пятніцу.**

## РАСПАРАДЖЭНЬНЕ

Гэнэральнага Камісара Усходніх Зямель, устанауліваючае новы курс валют, каторы мае прымацца у павятовых касах Віленскага і Берасьцейскага округу і у паветах б. Менскай губ.

Згодна з распараджэньнем ад 16-га ліпня 1919 г. № 72 („Урадовы Дзеньнік“ № 9) устанауліваецца, ад дня адтрыманьня гэтага распараджэньня аж да яго скасаваньня, гэтакі курс валют, у каторых могуць прымацца уплаты і рабіцца выплаты урадовымі постамі і грамадзянскімі інстытуцыямі, а іменна:

100 остмарак=100 руб. царск.=285 р. 71 к. думск.
100 руб. думск.=35 руб. царск.=35 остмар.
100 остмарак=50 острублеу.

Гэнэральны Камісар Асмалоускі.

Варшава, 23 жніуня 1919 г.

## Беларускіе сыны*)

Па Беларускім бітым шляху,
Бьючы у кайданавы званы,
Брыдзе чужынец, а з ім побач
Хто?
—Беларускіе сыны!

У Беларускім вольным краю,
З ярэмнай збрыушы старацы,
Царыць чужынец, а у паслугах
Хто?
—Беларускіе сыны!

Над Беларускай беднай хатай,
Як полка вырвана с труны,
Вісіць чужы сьцяг, а трымае
Хто?
—Беларускіе сыны!

У Беларускім Божым доме,
Як над касьцямі груганы,
Крумцяць чужынцы, а іх складам
Хто?
—Беларускіе сыны!

На Беларускім буйным полі
З вясны да новае вясны
Растуць крыжы, а пад крыжамі
Хто?
—Беларускіе сыны!

**Янка Купала.**

*) Па недагляду карэктара у гэтым вершы у № 8 было прапушчана 4 радкі, дзеле чаго верш друкуецца нанава.

## Да беларускага насяленьня Меншчыны.

Браты-беларусы! Ужо пяты год, як на зямлі нашай адбываюцца войны. Край наш зьнішчаны, будынкі спалены, дабро вывезена. Старонка наша на працягу пяці год пераходзіць з адных рук у другіе. Хто мае сілу і ахвоту, той бярэ і камандуе намі. I кожны дае нам усе большые і лепшые абяцанкі, але дабра мы ня бачым. Мы бачым адно, што жылося нам цяжка, а палёгкі ня відаць.

Браты-беларусы! Мы бачым, як гаруе наш народ, як дратуецца нашая Бацькаушчына,—цяжка нам на гэта глядзець! Усё мы радзіліся на гэтай зямлі, разам расьлі, разам гадаваліся,—дык паслухайце нашай парады:

Браты! Ня збавімся мы ад гэтага ліха ніколі, калі ня скажам усяму сьвету, што мы—*беларусы*. Усе мы, што жывом у Меншчыне, Віленшчыне, Магілеушчыне, Гродзеншчыне і Вітабшчыне, складаем адзін вялікі *Беларускі Народ*, лікам больш 12 мільенау. Усе мы павінны згаварыцца, злучыцца, каб будаваць сваю *Беларускую Дзяржаву*, як ангельцы, немцы, Польшча і іншые. Усё гэта у нас дауней было. I толькі тагды, як станем мы гаспадарамі на сваей зямлі і будзем мець свае *Беларускае войско*,— тагды збавімся мы ад таго гора і бяды, чаго нацярпеліся за гэтые пяць год вайны і шмат раней, як панавалі над намі расійцы, каторые не шанавалі ні нас, ні мовы нашай, ні звычаяу нашых. Толькі тагды ня будуць суседзі ваяваць за зямлю нашу, бо будуць ведаць і баяцца, што гэта зямля нашая, *беларуская*, а не расійская ці польская.

Але як-жа гэта зрабіць? Дзеля гэтага трэба па усіх нашых весках, засьценках, селах, мястэчках і гарадох закладаць *Беларускіе Рады*. Няхай дэпутаты ад весак зьбяруцца у валасьці і заложаць Валасную Беларускую Раду. А дэпутаты ад валасьцеу, сабраушысь у горад (па 2 ад валасьці)—зложаць з сябе Павятовую Беларускую Раду.

Пакуль ня можна зрабіць акуратных выбарау, няхай закладаюць Рады хаця бы паасобныя беларускія арганізацыі, ці, наагул, тые людзі, якім дарага справа адраджэньня Беларусі. Няхай твораць часовые Рады і стараюцца, каб у гэтые Рады уваходзілі акуратна выбраные дэпутаты. Няхай стараюцца, каб хутчэй і лепей адбываліся выбары, зьбіраліся зьезды. Ня можна адкладаць гэтае важнае работы.

Скора польскае войска ачысьціць ад расійскіх гультаеу увесь наш край, але гэта яшчэ ня значыць, што нашая зямля адойдзе да Польшчы. Аб долі свайго краю пастановім мы самі на сваем, сабраным з усей Беларусі, Сойме.

Хутка прыйдзе дзень, калі нас усіх, увесь народ беларускі спытаецца сьвет, як мы хочам жыць у будучыне і з кім хаурусаваць. I як будзе тады пастаноулена, так і застанецца на доугія гады. Дык трэба, каб нашыя людзі добра зразумелі, дзе дабро іх чакае і дзе ліхо; каб памяталі, што усе мы—і каталікі і праваслауныя, што жывіом на Беларусі—складаем адзін вялікі Беларускі Народ, каторы павінен сам дбаць аб сваей будучыне, каб як адзін чалавек дабіваліся для свайей Бацькаушчыны волі і незалежнасьці.

У Менску ужо колькі тыдняу, як беларусы згуртаваліся і пачалі працаваць. Выбраны тут наш Беларускі Нацыянальны Камітэт. Трэба каб каля гэтага Камітэту згуртаваліся усе беларускіе арганізацыі Меншчыны. Дзеле таго, як толькі дзе зьяуляецца організацыя, закладаецца Беларуская Рада, ці Беларускі Камітэт, ці іншая якая беларуская організацыя, няхай зараз-жа яна паведамляе аб сабе у Менск, у Нацыянальны Камітэт. А Павятовыя Рады няхай адразу, як заложацца, пасылаюць ад сябе прадстаунікоу у Менскі Камітэт на працу і параду.

**Беларускі Нацыянальны Камітэт у Менску.**

9 верасьня 1919 г.

## „Рускіе людзі“ і Беларускі народ.

„Ну добра“,—знойдуцца такіе людзі, скажуць: „ну, добра,—хай маскоуцы паробяцца шчырымі і назавуць сябе вялікарусамі і нават пачнуць думать па-вялікаруску,— гэта ім лёгка зрабіць, бо яны вялікарусы ёсьць і былі, а толькі да часу інačэй сябе называлі,—а што-ж рабіць тым беларусам, якіе узгадаваліся на думцы, што мы рускіе, „агульна-рускіе“ людзі,

якім люба „агульна-руская“ культура, што так доуга супольнымі сілами выраблялася у Маскве і Петарбургу, якіе адчуваць і думаць па-беларуску ня умеюць, а тым часам любяць Беларусь, бо на ей радзіліся, любяць народ, бо з яго выпленіліся?

Адказ на гэта ня хітры: трэба быць шчырым з самым сабой і з тым народам, аб любві якога гаворыцца. Трэба праверыць, ці есьць гэтая любоу па праудзе любоу, ці толькі словы аб ей. Трэба удумацца у становішча, у якім апынiуся беларускі народ і чаму яно так зрабілося. Ці-ж каб адукаваные сыны нашага народу, аддавалі яму тое, што ад яго узялі, быу-быб ен у такім стане як цяпер, бяз сілы, бяз сьвядомасьці, бяз сьвятла? Ці-ж магчымы былі-б на нашай старане такіе выпадкі, якіе адбыліся на ей праз 2 апошніе гады?— Страх падумаць—чацьвертая армія, становіцца на нашай зямлі, чацьверты раз. мяняецца на ей улада, а дзе наш народ, дзе яго голас, голас праунага гаспадара-тубыльца? Чаму у Польшчы на карысьць усяго польскага народу будуе новае моцнае гаспадарство Язэп Пілсудзкі, а ня правіць урады „облiскомзапец“ Мясьнікоу? І чаму гэтаму Мясьнікову так легка удалося другі раз узьсесьці нам на галаву? Праудзівае каханьне народу і Беларусі дасьць праудзівые адказы нашаму тутэйшаму „рускаму“ чалавеку на гэтые пытаньні і пакажа праудзівую дарогу па якой трэба ісьці. Яна ляжыць да незалежнасьці беларускага народу, да адбудаваньня яго матэрыяльнай і духоунай гаспадаркі. Для уступіушых на гэтую дарогу няма ніякіх пытаньняу аб „рускай“ культуры, бо матэр'яльная культура б. Маскоускай імпэрыі есьць толькі убогая, мізэрная частка усесьветнай матэрыяльнай культуры, а духоуная яе культура зьяуляецца толькі аднэй з блізкіх нам славянскіх культурау, каторые мы можам (як блізкіе нам) любіць і часткай, значнай часткай, той вялікай усесьветнай духоунай культуры, з якой мы павінны чэрпаць найлепшае для аздобы нашага народнага гмаху. Той, хто працавау для Беларусі, як шчыры яе сын, успомніць ня адзін прыпадак уступленьня на гэтую дарогу бяз нічыіх нагаворау, а толькі праз свае думкі такіх Саблау.

Ну, а калі знойдуцца беларусы, каторые пры усей сваей любві да народу і краю, ня здолеюць адкаснуцца ад Масквы і не захочуцьісьці па гэтай дарозе,—што ім рабіць?

У „Агадзе“ запісано адно пекнае паданьне з часоу 40 летняга туляньня Ізраэля у пустэльні. Што год, у надвечар першага Аба, Маісей хадзіу па табары і загадывау: „Выходзьце капаць долы! Выходзьце капаць долы!“ Кожны з племені выкопывау сабе дол і клауся у яго на-нач. А на заутра выходзіу на табар весьцьнік і клікау: „жывыя аддзяліцеся ад мертвых!“ Кожны раз у зямлі аставалося 15.000 ізраільцян, аж пакуль лічба памерших не дайшла да шасьцісот тысяч душ. Калі у апошні саракавы год з зямлі паустаралі усе, дык былі не хацелі верыць гэтаму і зноу папакладаліся у зямлю і так цягнулося пяць дзен, аж пакуль ня уверыуся народ, што кара Боская над ім скончылася, і зямля абяцаная блізка. „Тады справілі сьвято“.

Мы яшчэ толькі вырушылі з нашай эгіпцкай няволі. Час поунага адраджэньня нашага народу, поунага разьвіцьця яго здольнасьцяу і сілау—наш край обецаны—яшчэ ня блізка і, пакуль мы дасягнем яго, мінець не адно першае Аба. За народам плятуцца і тые, хто духам зьвязаны з яго Эгіпцкімі цярненьнямі, тые, каму няволя на зауседы скалечыла душу. Народ не застановіцца. Хоць тры разы сорак гадоу будзе ісьці ен сваей дарогай, але дасягне такі сваей мэты жывы і моцны, мацнейшы чым-сь цяпер. Ен не памрэ, ен мусіць і будзе жыць усе пякнейшым жыцьцем. А ім, чыімі, на часьці рукамі душыуся народ,— ім, спагадчыкам яго няволі і паслугачам яго уціску; ім, чые крокі не пасьпеваюць за слауным паспалітым яго рушэньнем,—ім прыдзецца паволі выміраць.

Гэта іх социяльнае прызначэньне. Спакойнае прыняцьце на сябе гэтага прызначэньня пакажа іх палітычны розум і будзе іх грамадзянскай заслугай перад вечным, слауным, вялікім Беларускім народам.

**Навагрудзкі.**

## Беларуская Кнігарня.

Ужо дауно была у Менску Беларуская кнігарня. Апошнім часам яна мясьцілася па Захараускай вул. № 18. Цяпер гэтае кнігарні і паміну няма. Дзе-ж яна дзелася?

Яе вывезьлі бальшавікі на Маскоушчыну.

Беларускіе кніжкі друкаваліся цяжкаю працай беларускіх работнікау і выдаваліся коштам ахвяр прыхільнікау беларускага руху. Яны дарма раздаваліся у беларускіе вескі і сялы, каб абудзіць у людзей пашану да свайго роднага і закінуць у людзкую цемру іскру сьвету, але ніколі ня былі прадметам гандлю і нажывы. Тым часам бальшавікі не пасаромяліся адабраць іх у народу і вывезьці да сябе, на Маскоушчыну. Усяго было забрано і вывезено беларускіх кніг па старой, даваеннай цане, на 50.000 руб., што па цяперашнім цэнам будзе каля 500.000 р.!

# ТО ТОЛЬКІ СОН...

*Шчыра паважанаму А. Моцнаму.*

(Глядз. № 8).

Дзівіуся я усяму гэтаму, а сам не'к рад, што папау, здаецца у гэткі рай.

Сяляне усе нібы зачарованы гэткім апавяданьнем. Толькі зрэдку чулося працяжнае „а-а!“ Нярухома сядзелі усе, баючыся зрабіць які стук, каб не перашкодзіць казцы. Уважна слухаюць. Адам-жа, бачучы гэта, сам ня ведае, дзе ен: ці на небе, ці на зямлі,—і апавядае далей і ужо блізіцца к канцу.

„Але ось я успомніу пра жонку і дзеці і сказау аб тым Юрку. А ен: „Прывозь, ка'а, сюды, або напішы: хай самі прыезджаюць. У нас работы ім хваце і хлеба стане,—зноу паутарыу, што і раней казау. „Дзеці, ка'а, будуць вучыцца у той, што я пакасвау, школе. а самі, гэтак, як і мы: працаваць-меце“.

Кончылі мы падвячоркаваць і ідом у народную хату. Я быу вельмі радушчы, што знашоу сваю долю, свае шчасьце. Я не'к пасьмялеу, бо чууся тут ужо сваім, і пачау распытавацца: „А ці войско у вас, або якая там міліцыя ці паліцыя есьць?“—„Не, ка'а, няма. Мы нікому ніякай крыуды ня робім і ні з кім не ваюем. Але калі вораг які пасягне на наш край, то тагды мы усе гуртуемся ды ідом у сталічнае места, бяром аружжо і баронім бацькаушчыну. А міліцыя, ці паліцыя—пытаеш? На вошта ж яна? У нас зладзеяу, разбойнікау, як у другіх краіох, няма, бо няма, бач, тых прычын, што робяць з чалавека злодзея ці разбойніка“. „Ага!“—працягнуу я: „Ось так дык добра. А як жаняцца у вас?“ запытау я. „А так, браце,—калі хлопец палюбіу дзяучыну, то ім ніхто не пярэчыць. Ідуць яны запісвацца, і жывуць пабраушы шлюб“.

— Ну, а ці дауно ужо у вашым краю пануе такое жыцьце? Із гэтым пытаньнем мы увайшлі у хату. Народу было ужо шмат: мужчыны, кабеты, хлопцы, дзяучаты і навет дзеці былі. Там гаворать, там чытаюць, а у другім пакою гуляюць. А якая пекната, якая гожасьць! Усюды на сьценах картыны, малюнкі розные. Сталоу усякіх, і малых і вялікіх, ды усе хварбованые да пазасьціланые узорыстымі абрусамі. Зэдлі мяккія.

Прыселі мы ля аднаго століка. Юрка пашоу узяу некую кнігу. Разгарнуу і пачау аказваць на мае пытаньне. Дауно, ка'а, нашы й дзяды не памятаюць. Ось у гэтай кнізе апісана, як мы дайшлі да гэткага жыцця. У нас каліcь жылі ось так, як ты, браце, расказвау у вас (я адным мамэнтам, прауда, апавядау пра гэта). Навет цары былі. Але вось—я буду казаць коратка—вышлі з народу людзі і пачалі народ вучыць, як можна здабыць долю і шчасьце. Прауда, гэтых людзей лавілі саджалі у вастрогі, ка-

Так была аграблена у нашага народу яго духоуная страва.

Разам з тым, бальшавікамі была разграблена адзіная на той час беларуская часопісь у Менску „Вольная Беларусь“. Гэта яны зрабілі зараз-жа, як прышлі у Менск, у сьнежні м-цы 1918 г. Рэдактара „Вольнай Беларусі“, Я. Лёсіка „чрезвычайка“ не арэштавала толькі дзеле таго, што той падашукау яе, а потым схавауся.

Тагды бальшавіцкіе грабежнікі ачысьцілі рэдакцыю да апошняй паперкі. Забралі пішучую машыну, шапірографы, рукапісы, канцэляр. паперу, пячаткі, канторскіе кніжкі, рахункі, адрасы падпісчыкау, пісьмы і т. д... Гдзе гэта усе дзелося— няма ведама. Згінуло навекі, а тым часам там шмат было рукапісау вядомых беларускіх пісьменікау, каторых ніякімі грашыма аплаціць немэгчыма, бо гэта былі аутэнтыкі.

Мы даведаліся, што „Вольная Беларусь“ мае у хуткім часе аднавіцца і толькі брак паперы перашкаджае гэтаму. Пажадаем, каб яна хутчэй узнавілася, бо гэта была найлепшая беларуская літэратурная часопісь.

Што тычыцца Кнігарні, то яе, разумеецца, вярнуць назад ня удасца. Яна згінула, як згінуло шмат чаго ад дзікай рукі маскоускіх наездьнікау.

**Я. Ксяневіч.**

## Політычные навіны.

### Польска-украінскае перамірые.

ВАРШАВА 6—IX. Паміж палякамі і украінцамі падпісано перамірые на месяц. Ад імя Начальніка Польскай дзяржавы падпісау гэнэрал Дурскі, ад імя атамана Петлюры гэнэрал Лішко. Войскі захоуваюць ранейшае становішчо на час трываньня перамірыя.

### Зямельные рэформы Дэнікіна.

КАНСТАНТЫНОПАЛЬ. Гэнэрал Дэнікін абвясьціу спісак зямельных рэформау, якіе будуць уведзены яшчэ да склікань Устаноучага Сойму:

1) Абарона інтарэсау рабочага стану.

2) Разьвіцьце дробнага й сярэдняга землеробства; парцэляцыя абшарау, належачых да скарбу, альбо вялікіх уласьнікау і раздача беззямельным.

3) Зямля будзе дана за выкуп.

4) Вынняткам будуць землі казацкіе.

5) Урад дасьць сялянам дапамогу, каб маглі закупіць землю, збожжо, быдло і зямельные прылады.

## Беларуская кроніка.

**Беларускае Навукова-Культурнае Т-во.** Гэтымі днямі адбылося першае пасьля уцеку бальшавікоу агульнае пасядзэньне сяброу Т-ва. На пасядзэньні абгаворваліся арганізацыйные пытаньні у зьвязку з тым, што многіх сяброу бальшавіцкая улада, калі ня вывезла, дык разагнала. Між іншым вывяз у Смаленск закладнікамі п. п. В. Івануоскага і А. Трэпко, як сяброу Прэзыдыума Т-ва, моцна адзываецца на працы у сучасны момант. Т-во маніцца у блізкім часе распачаць выдавецкую справу і заняцца справай падагогічна-навуковай. Месьціцца Т-во пры Беларускім Камітэце, дзе у пэуные гадзіны робіцца прыем рукапісау да выданьня.

**Слово Упоунаважанага Беларускага Ураду у Варшаве.** „Газэта Польска“ у № 316 памяшчае ліст Упоунаважанага Беларускага Ураду у Варшаве п. Дубейкоускага, Старшыні Беларускага Камітэту у Варшаве, у справе польско-беларускіх адносін. У гэным лісьце п. Дубейкоускі, у зьвязку з кіланьнем некатарай часткай польскай прэсы гасла паустрыманьня далейшага наступленьня польскага войска за Бярэзіну, бытцам бы патрэбнага толькі для абароны польскіх абшарнікау, як офіцыяльны прадстаунік Беларускага Ураду, зазначае, што беларускі народ, доугімі гадамі цярпеньня моцна зьвязаны з польскім народам, уважае гэты ваенны паход не іначай, як паход дзеле асвабаджэньня яго з маскоускае нявол; што беларускі народ, жадаючы злучаньня Беларусі з Польшчай на аснове „вольные з вольнымі, роуные з роунымі“ ніколі ня згодзіцца на падзел Беларусі і ніколі не забудзе крыуды, зробленай гэткім падзелам. і дзеля гэтага ня можа і думаць аб затрыманьні паходу на Бярозе; што Народ Беларускі жадау-бы сувязі з Польшчай прынамсі у межах перад 1772 г. і што аб распачацьці аб гэтай справе перагаворау, Беларускі Урад, пасьля агалашэньня адозвы Начальніка Польскай Дзяржавы Пілсудзкага ад 22 красавіка распачынау пэуные акцыі.

Свой ліст п. Дубейкоускі канчае зазначэньнем, што у адказ на прапазыцыі Беларускага Ураду і адозву Пілсудзкага, зьяуляецца назначэньне у цывільнае упрауленьне Беларусі не беларусау і поунае маучаньне адпаведнае улады, што дае толькі магчымасьць прыгатоуваньца грунту дзеле бальшавіцка-маскоускай агітацыі.

**Намесьнік Гэнэральнага Камісара п. Рачкевіч аб беларусах.** Як паведамляе „Наш Край“ п. Рачкевіч у гутарцы з супрацоунікам газэты зазначыу, што народ беларускі адносіцца прыхільна да палякоу, а кіраунікі і палітыкі занялі пазыцыю чакаючую, у зьвязку з тым, што

---

ралі, але зьяуляліся другіе і казалі тое самае. Ня усе слухалі гэтых людзей, але былі і такіе, што паслухалі, зразумелі і пачалі рабіць, як казалі тые людзі. А яны казалі: „Зразумейце сказ: адзін за усіх, а усе за аднаго, і жыцьце ваша палепшыцца“. І вось людзі, што зразумелі, пачалі злучацца у грамадкі і пачалі жыць, як мы цяпер. Добра стало жыць так. Другіе, гледзючы на першых, так сама згуртаваліся і далучыліся да першых, і сталі жыць згодна. Дзяцей ужо пачалі адукаваць па-своему, у матчынай мове, а то бывало у „казенках“ некай чужой атручвалі ды рабілі з дзетак здраднікау сваіх бацькоу, што сароміліся свайго роднага. Цяпер адукуюць паводлуг патрэб кожнага народу. Прауда, усе гэта многа крыві каштавало простаму народу, а усе-ж такі узялі свой верх. Нішто не магло супыніць народнага поступу. Народ пачуу у сабе сілы ля справаваньня самым сабою, і лепшые людзі з народу пачалі кіраваць народнымі справамі. Вось гэткім парадкам і дайшлі мы да гэткага жыцьця. Цяпер мы жывем, бы у раю. Няма ні бедных, ні багатых,—усе роуные. Няма зладзеяу, ці разбойнікау, як я й раней казау. Жывом сабе, згодненька, працуем і усім здаволены. Будзеш і ты у нас жыць шчасьліва!“ скончыу Юрка. Я нешта жадау запытаць, ажна—на табе!—жонка, крыкнула: „уставай. Адам,—ужо пара!“—і я зноу апынууся на гэтым сьвеце, сярод людзкай бядоты“...

Кончыу і Адам.

Сяляне ад гэтага сказу нібы акамянелі. І яшчэ-б мо' доуга сядзелі, ня ведаючы, што зрабілося, каб ня гукнуу Адам другім голасам і усіх тым зрухнуу: „Я скончыу. Хадзем спаць, бо дасядзеліся такі да золку!“

Схамянуліся, і па цэлай грамадзе пашоу гоман, а вецер зважней шугнуу, каб злавіць, здаецца, усе, што скажуць сяляне ды панесьці уверх к зорам на суд.

— Ну, і сон! Гэта, напэуна, ты, брат, сам, выдумау,—адкуль табе гэтак сьніць?! сказау першы малады селянін.

— Мо' дзе вычытау, або хто расказау,—дадау другі.

Усяляк гаварылі і думалі і трэйціе. Стары Максім апусьціу голау, задумауся і шаптау: „То толькі сон! Эх, каб гэты сон хоць пры дзетках ці унуках збыуся у нашым краю!“ Потым прыцісньнуу шапку і моучкі узадуменьні пасунуу да хаты.

Адам нічога не адказау. Ен пачувау, нібы вялікі камень адлег у яго на сэрцы і з радушчым тварам борзда пашоу дамоу.

Разышліся паволі і усе.

Вецер мацней шугнуу, зашумеу, і заціх. На усходзе паказалася зарніца.

**Янка Кужаль.**

10. 9. 1918 г.

яшчэ не згаварыліся між собою. Аднак у настрою відаць жаданьне адмяжавацца ад Расіі.

**Бабруйская Павятовая Беларуская Рада.** З заняцьцем Бабруйску, як паведамляюць прыехаушые адтуль асобы, маецца сабрацца Бабруйская Беларуская Рада і аднавіцца разбітые бальшавікамі нацыянальные арганізацыі.

**Беларуская Вучнеуская Грамада у Менску** аднауляе сваю чыннасьць, што асабліва будзе мець вялікае значэньне у зьвязку з адкрыцьцем беларускіх сярэдніх школ у Менску.

**Адозва Польска-Беларускага Т-ва у Варшаве.** У Варшаве істнуе П.-Беларускае Т-во, урад каторага складаецца з гэтакіх асоб: Э. Вайніловіч, А. Лядніцкі, К. Гардзялкоускі, Т. Галоука, П. Аляксюк, Л. Дубяйкоускі, Р. Скірмунт, Б. Тарашкевіч, М. Абязерскі, В. Цывінскі, Г. Кяневіч і Ц. Янкоускі.

Ад імя гэтага Т-ва выпушчана гэтакая адозва: „Сваякі! На Беларускай зямлі, змучанай царскай няволяй, нямецкай окупацыяй і бальшавіцкім наездам, стало польскае войско. Уваходзячы, нясуць яны. Белай Русі вызваленьне і волю. Яны ужо у Менску. Дасьць Бог хутка падыдзе хвілія, калі адбяруць з крывавых бальшавіцкіх рук рэштку зямель беларускіх, выгнаушы назаусюды, туды—за Смаленск, маскоускіх наезднікау, каторые—ці то у скуры царскіх чыноунікау, ці бальшавіцкіх камісарау, заусёды патраплялі рабіць адно: красьці, рэквізаваць, забіваць, пашыраць цемнату і зьдзекавацца над нявіннымі людзьмі.

Ось яшчэ так нядауна абяцалі даць Белай Русі волю і свабоду сумленьня, дакляравалі людзям хлеб і землю, а далі голад, хваробу, сьлезы, уціск, ганьбу, няволю і сьмерць. А калі, перад тварам справядлівасьці, што ідзе іх накараць, прымушаны былі уцякаць, то стараліся давесьці людзям, што Польшча прыходзіць па Белую Русь затым, каб аднавіць тут „паншчыну“. Мала есьць людзей такіх наіуных, каб такой брахне далі веры. Бо каму не вядома, што калі бальшавіцкая улада укінула Расію у няволю й нядолю, калі, немцы, каторые хацелі пад'ярэміць цэлы сьвет, а цяпер сама-ахвяра бязладу,—адна толькі Польшча вольная, злучаная і незалежная паустае да жыцьця, як Рэч Паспалітая, каторая справуецца дэмакратычным Соймам, нясе народам, з каторыми зьвязалі яе дзеі, волю і вызваленьне.

Хто-ж не зразумее, што народ польскі, каторы сам праз сто год змагауся з няволяй, няволяй тэй ганьбуе і нікому няволі тэй накінуць не захоча“.

Прыпамянуушы пра адозву Н. П. Панства Пілсудзкага і зазначыушы, што польскае войско нясе вызваленьне ад маскоускага іга, адозва запрашае іці у польскае войско і канчаецца гэтак: „Ось блізка ужо дзень, калі, прагнаушы з краю дзікіх грабежнікау, вольная і злучаная Белая Русь адтрымае права супольна з вольнай і злучанай Польшчай, як роуны з роуным, да шчасьлівай будучыны у аднауленай прыязьні дзяржаунага сужыцьця з Рэчы Паспалітай польскай“.

# МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**Прыезд Я. Пілсудзкага.** У хуткім часе у Менск прыезджае Начальнік Польскага Панства Язэп Пілсудзкі.

**Сярод безработных чыгуншчыкау.** Гэнэральны Камісар Усходніх Зямель у Варшаве абяцау безработным чыгуншчыкам вось што:

Яны будуць прыймацца на службу пасьля здачы спрау чыгункі мейсцовай ваеннай уладай цывільнай уладзе, ім будуць выданы грашавые і харчавые пайкі, пэнсыі інвалідам і т. д.

**Арандатары зямель,** скарбовых, царкоуна-касьцельна-манастырскіх, мястовых і прыватных уласьнікау (усяго болей 4000), змучаные бальшавіцкай анархіяй, пакуль што ня у сілах плаціць запушчаные даугі.

**У мяйсцовых сярэдніх школах** пануе цішыня. Вельмі мала вучняу прыходзіць рэгістравацца, з прычыны павялічанай платы за праваучэньне у некаторых (рэяльная школа) да 1000 руб. за вучэбны год.

**У прытулках.** Подлуг падрахунку, зробленага нядауна Менскім павятовым аддзелам Камітэту дапамогі для дзяцей, лік дзяцей у сталых дзяцiных прытулках Менска даходзіць 968 чал. і у дзенных прытулках 2210 чал. Калі-ж да гэтага дадаць яшчэ дзяцей з школау для калек і дзяцей з 3 шпіталяу—473 чал., то агульная лічба апякаемых дзяцей будзе 3651 чалав. Нацыянальна дзеці у прытулках дзеляцца у такі спосаб: у дзенных прытулках палякоу 607, беларусау 235 і жыдоу 1368; у сталых прытулках палякоу 213, беларусау 562 і жыдоу 193, а наагул у ва усіх прытулках палякоу 26%, беларусау 24% і жыдоу 50%.

Дарослых хворых у шпіталях Менску на першых днех г. м. было 812 ч.

Старцау у багадзельнях—220.

**Школьны інспэкторыят Менскага Округу** месьціцца на Домінiканскай вул., № 34 кв. 1, куды і належыць зварачвацца ва усіх справах, датычучых школ. Там жа патрэбны энэргічные людзі-спэцыялісты, для займаньня пасадау павятовых інспэкту. Школьным інспэкторам Менскага округу назначаны п. Мечыслау Каус.

**Усім б. працоунікам Скарбовай Палаты** жадаючым працаваць далей у гэнай установе, належыць зьвяртацца асобіста з прозьбай да дэлегата Скарбовай Сэкцыі Цывільнага Упрауленьня Усходніх Зямель, п. Орлоускага.

Прыем будзе адбывацца у будынку б. Скарбовай Палаты 5, 6 і 7 верасьня ад гадзіны 3 да 4 па поудні.

**Рэгістрацыя беларусау-вучыцялеу.** Беларуская Школьная Рада Меншчыны, хочучы выясьніць мажлівасьць пераходу Менскіх меставых школ на беларускую мову навучэньня і адкрыцьця новых беларускіх школ, запрашае усіх настаунікау, якіе могуць і хочуць выкладаць у сваіх школах па беларуску у працягу трох дзен—12, 13, 14 верасьня ад 11 да 2 гадзін зарэгістравацца у Канцэлярыі Рады (Захарауская вул., Юбілейны дом).

Просім другіе газеты перадрукаваць.

**Т-во працаунікоу беларускага мастацтва.** У нядзелю 14-га верасьня у мястовым тэатры Т-во беларускага мастацтва пачынае сваю працу камэдыяй Я. Купалы—Паулінка, са сьпевамі і танцамі. Потым хор Церауская, дэклямацыя і др.

Частка збору пойдзе на карысьць дзіцячых прытулкау, а частка на карысьць самаго Т-ва. Пачатак а 6 гадзіне веч. Білеты прадаюцца у Юбілейным доме, а у дзень спэктаклю—у тэатры ад 12 гадз. дня.

# ДОПІСЫ.

## Бальшавіцкіе уцекі.

**Крайская воласьць, Вілейскага павету.** Разам з вялікай радасьцю з тэй прычыны, што бальшавікі уцякаюць, пачалася яшчэ большая трывога: грабежствы бальшавіцкіх аборваных, галодных салдатау дайшлі да вялізарных размерау.

Бралі усе, што толькі пападалося пад рукі: скаціну, хлеб, сало, вопраткі, палатно і г. д. Людзі с коньмі хаваліся па лясох. Гэтакім чынам тыдні са тры у нашай ваколіцы ніхто на полі не працавау.

А бальшавікі уцякаючы астауляліі сьляды свае па дарозе: руіны, і стрэльбы, якіе валяюцца па канавах і хмізьняках, якімі граюць пастушкі.

Цікавы выпадак быу у весцы Віраблеушчыны у селяніна Гэйны. Нейкім чынам ен заспрачауся з цэлым бальшавіцкім атрадам, і яны пачалі стральбу у яго хату. А у гэтага Гэйны быу сын, каторы меу пры сабе пару стрэльбау, і пачау адстрэлівацца назад.

Перастрэлка у іх разгарэлася на некалькі дзен. Бальшавікі з м. Плешчаніцы (Барыс. пав.) прывязьлі куляметы, прыбавілі войска і адкрылася праудзівая пазыцыя.

Уся Віраблеушчына была зрабована, спалена і сын Гэйны ранены. А у бальшавікоу было забіта пяць чалавек, і некалькі коней.

Пасьля гэтага разнясьліся чуткі, што нейкі бальшавіцкі камісар Бэнгер мае спаліць усе хутары ваколі, як контр-рэвалюцыйные і няшчасные сяляне схавалі у далекіх лясох скаціну і хатніе рэчы, жылі у страху цэлые тры тыдні. Але, дзякаваць Богу, бальшавіком было ужо не да гэтага,—гналі іх легіоны.

Уцякаючы бальшавікі пасьпелі толькі забіць аднаго старога цікага чалавека (нібы шпіона) Рачыцкага і зрабаваць усе, што было у яго хаце. Так зрабавалі, што нават не было у чым хаваць няшчаснага Рачыцкага.

Прышлі легіоны у нашу ваколіцу і разам з імі прышоу супакой, людзі пачалі працаваць, паявіуся танны хлеб (ад 400 руб. за пуд, да 60—40 руб.), соль і г. д.

Бальшавіцкіе грабежнікі пайшлі ад нас, як цяжкі, кашмарны сон.

**Тутэйшы.**

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*

З дазвал. Цэнзуры. Друкарня Інвалідау, Менск.